ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СЕРАДА, 28 чэрвеня 2000г.

№ 49 (8118)

Раённая грамадска-палітычная газета

Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР

Цана 24 руб.

У райвыканкаме

## ВЫНІКІ СПАБОРНІЦТВА НА СЯЎБЕ

***Разгледзеўшы вынікі спаборніцтва за своечасовае і якаснае правядзенне сяўбы, раённы выканаўчы камітэт згадзіўся з прапановай упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання, райкамам прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу прызнаць пераможцамі ў спаборніцтве:***

сельскагаспадарчыя калектыўныя прадпрыемствы "Чырвоны баец" і "Ніва", якія ў аптымальныя тэрміны з захаваннем усіх агратэхнічных правілаў правялі сяўбу.

СКП "Чырвоны баец" прысуджана першае месца ў спаборніцтве, яно ўзнагароджваецца Ганаровай граматай райвыканкама і грашовай прэміяй у суме 25 мінімальных заработных плат.

СКП "Ніва" прысуджана другое месца ў спаборніцтве, яно ўзнагароджваецца Ганаровай граматай райвыканкама і грашовай прэміяй у суме 20 мінімальных заработных плат.

**У індывідуальным спаборніцтве пераможцамі прызнаны:**

***1/ на ўнясенні арганічных угнаенняў:***

— Міхаіл Міхайлавіч ГРЫЦКЕВІЧ, механізатар калгаса "Камуніст", які на трактары МТЗ-82 унёс 4301 тону; Генадзь Георгіевіч ГРЫШЧАНКА, механізатар Жыліцкага сельгаскаледжа, які на трактары МТЗ-82 унёс 3264 тоны; Васіль Іванавіч БЕЛАГЛАЗАЎ, механізатар саўгаса імя Кірава, які на трактары МТЗ-1221 унёс 3196 тон. Ім прысуджаны адпаведна першае, другое і трэцяе месцы. Яны ўзнагароджваюцца Ганаровымі граматамі райвыканкама і каштоўнымі падарункамі на суму 5, 3 і 2 мінімальныя заработныя платы.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## У ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, ДЗЕНЬ РЭСПУБЛІКІ

***(Праграма мерапрыемстваў, якія адбудуцца ў г.п. Кіраўску 3 ліпеня 2000 года. Пачатак у 10 гадзін на стадыёне райцэнтра).***

* *Прывітанне старшыні раённага выканаўчага камітэта А.С.Сцяпанчанкі.*
* *Урачыстыя праводзіны прызыўнікоў у рады Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.*
* *Паказальныя выступленні ваеннаслужачых 5-й асобнай брыгады войскаў спецыяльнага прызначэння Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь г.Мар'іна Горка.*
* *Конкурс гарманістаў і прыпевачнікаў "Іграй, гармонь!" На конкурс запрашаюцца ўсе самадзейныя выканаўцы раёна.*
* *Выстаўка сабакаводства "Дог-шоу-2000". Жадаючым прыняць удзел неабходна пазваніць па тэлефоне 21-1-66.*
* *Сустрэча з сямейнымі парамі, якія адзначаюць "залатыя" і "брыльянтавы" юбілеі свайго вяселля.*
* *Конкурс на лепшы прысядзібны ўчастак, домаўладанне.*
* *Дзіцячыя конкурсы і гульні па праграме "Дзень добры, лета!" (у іх могуць прыняць удзел дзеці розных узроставых груп).*
* *Легкаатлетычны прабег на 1000 метраў, спаборніцтвы па веласіпеднаму спорту "Гонка з выбываннем", шашачны турнір, дардс.*
* *Свае паслугі ўсім прапануюць гандлёвыя прадпрыемствы райспажыўтаварыства, будзе арганізаваны і фірменны гандаль.*

**Аддзел інфармацыі райвыканкама.**

*Паведамляе БелТА*

## КАБ АДПУСКНЫЯ І ЗАРПЛАТУ АТРЫМАЦЬ СВОЕЧАСОВА

У чэрвені бюджэтная сфера не мае запазычанасці па выплаце заработнай платы, паведаміў першы намеснік міністра фінансаў Мікалай Румас. Аднак, паводле яго слоў, у ліпені-жніўні сітуацыя ў сувязі з адпускной кампаніяй можа ўскладніцца. Таму ўрад і Мінфін ажыццявілі шэраг мер па своечасовай выплаце заработнай платы і адпускных. У прыватнасці, у другім і трэцім кварталах у рэспубліканскім бюджэце прадугледжаны павышаныя ўзроўні датацый на аказанне фінансавай дапамогі Мінгарвыканкаму і Мінаблвыканкаму, Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай абласцям. Таксама з рэспубліканскага бюджэту запланаваны мэтавыя пазыкі ў суме па 500 мільёнаў рублёў, а Гомельскай — 750 мільёнаў. Пэўныя крыніцы, адзначыў Мікалай Румас, ёсць і ў мясцовых бюджэтах.

## НАРЫХТОЎКА КАРМОЎ — ГАЛОЎНАЯ ЗАДАЧА ДНЯ



*Калгас імя Свярдлова адносіцца да гаспадарак так званай лясной зоны. Землі тут лёгкія, бальнасць іх невысокая. Каб атрымліваць стабільныя ўраджаі збожжавых, бульбы, караняплодаў, тут дожджык патрэбны хаця б адзін на тыдзень. Яго ў калгасе чакалі з сярэдзіны красавіка амаль што два месяцы. Падгарэлі пашы, не ўрадзілі шматгадовыя травы. Для статка буйной рагатай жывёлы, што знаходзіцца на Стайкаўскай ферме, летась хапіла 110 гектараў выпасаў, хаця год не надта быў спрыяльным для земляробаў. Сёлета каровамі стравілі ўжо ўдвая больш. Пасля апошніх дажджоў, а над лясной зонай ён прайшоў у нядзелю асабліва спорны, прыўзняўся настрой у вяскоўцаў. Літаральна на вачах сталі ажываць збітыя пашы, якія чакаюць азотнай падкормкі, павесялелі пасевы кукурузы. Дарэчы, "каралева палёў" сёлета займае 200 гектараў. Палову плошчы падкармілі КАСам, другая — у чаканні. На сённяшні дзень пакуль што няма азотных тукаў у гаспадарцы, а яны так патрэбны. З імі тут звязваюць надзеі на другі ўкос траў, на высокі ўраджай кукурузы.*

*Але сказаць, што ў гаспадарцы сядзяць склаўшы рукі і чакаюць міласці ад "нябеснай канцылярыі", значыць, пакрывіць душой. На 26 чэрвеня травы першым укосам скошаны на трох чвэрцях ад наяўных, нязначны разрыў паміж скошаным і ўбраным. На прадстаячую зімоўку ўжо нарыхтавана 700 тон сенажу, 100 тон сена. Не заўсёды ўдаецца вытрымаць тэхналогію закладкі сенажу — падводзіць травастой. З першага ўкосу тут мяркуюць атрымаць яшчэ каля 100 тон сена і 300 тон сенажу.*

*На "зялёным жніве" занята шмат старанных механізатараў. Напрыклад, той жа Анатоль Пятровіч Пафераў. Ён (на здымку справа) і на сяўбе быў у ліку перадавікоў, у яго гонар уздымаўся чырвоны сцяг на цэнтральнай сядзібе, яго прозвішча заносілася на Дошку гонару раённай газеты "Кіравец". Зараз Анатоль Пятровіч заняты на касьбе траў. Ротарнай касілкай ён штодня перавыконвае дзённыя заданні на 40-50 працэнтаў. Сяргей Віктаравіч Іванчыкаў (на здымку ў цэнтры) працуе на самаходным комплексе Е-302. Працуе рупліва, але "нагнаць" за змену танаж складана — "худыя" валкі. Няма прэтэнзій і да вадзіцеля Анатоля Уладзіміравіча Сідарава (на здымку злева), іншых занятых на касавіцы.*

*У чэрвені ў гаспадарцы пачалі выдаваць заработную плату за люты. Хто ведае, калі разлічацца тут за апошні месяц зімы, а на двары лета.*

**Пятро СУРЫНОВІЧ,**
**Фота аўтара.**

**ІНФАРМАЦЫЯ РАЙСЕЛЬГАСХАРЧУ**
**аб ходзе нарыхтоўкі кармоў**
**па становішчу на 27 чэрвеня г.г.**
**(у працэнтах да плана)**

| Гаспадаркі | Скошана ўсяго | Нарыхт. сена | Нарыхт. сенажу |
|---|---|---|---|
| «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага | 100,0 | 21,9 | 46,3 |
| імя Дзяржынскага | 100,0 | 43,1 | 15,3 |
| «Шыннік» | 100,0 | 31,9 | 74,0 |
| СКП «Ніва» | 98,6 | 103,1 | 67,5 |
| СКП «Чырвоны баец» | 94,4 | 115,3 | 149,2 |
| «Радзіма» | 91,1 | 25,5 | - |
| с-с імя Кірава | 90,5 | 41,8 | 26,9 |
| імя Кірава | 89,7 | 12,8 | 71,1 |
| «ІІІ з'езд Саветаў» | 89,0 | 15,6 | 36,0 |
| імя Калініна | 87,7 | 22,3 | 30,9 |
| імя Чапаева | 85,2 | - | - |
| СЗАТ «Бераснёўскае» | 84,8 | 9,2 | 23,3 |
| імя Свярдлова | 82,9 | 13,1 | 38,8 |
| «Беларусь» | 79,2 | 10,2 | 65,2 |
| Жыліцкі сельгаскаледж | 78,7 | 12,5 | 22,2 |
| «Камуніст» | 77,4 | 24,4 | 19,2 |
| імя Ільіча | 42,7 | 5,8 | - |
| Усяго па раёне: | 88,5 | 26,5 | 37,8 |

**Заўвага: у калгасе імя Чапаева нарыхтавана 24,5 % сіласу.**

## СТАРАННЫЯ МЕХАНІЗАТАРЫ

Калгас "ІІІ з'езд Саветаў" — адна з нямногіх гаспадарак раёна, якая сёлета плюсуе па вытворчасці малака ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Прыкладна на паўтара літра вышэй і сярэднясутачныя надоі ад каровы. Прыбаўка стала магчымай таму, што статак знаходзіцца на пашы не менш дванаццаці гадзін у суткі, і дойнаму пагалоўю выдаецца падкормка двойчы на дзень: у абед і ўвечары.

Нарыхтоўвае зялёную масу самаходным комплексам Анатоль Васільевіч Вашукевіч, адвозіць на ферму Іван Цімафеевіч Русецкі. Абодва механізатары старанныя і дысцыплінаваныя. Канвеер працуе без збояў. Больш таго, А.В.Вашукевіч, нарыхтаваўшы пад патрэбнасць зялёнай масы, рамантуе да жніва свой камбайн, які знаходзіцца на базе райаграпрамтэхзабеспячэння.

*Рамонт тэхнікі*

## СЛОВЫ НЕ РАЗЫХОДЗЯЦЦА СА СПРАВАМІ

Пасля завяршэння комплексу ўборачных работ многія гаспадаркі раёна пастаўляюць у ААТ "Кіраўскае райаграпрамтэхзабеспячэнне" тэхніку, якой неабходны складаны рамонт. Перад пачаткам кормаўборачнага сезону ды і ў перыяд правядзення нарыхтоўкі кармоў нагрузка на рамонтнікаў павялічваецца. Толькі не скардзяцца яны на гэта, бо ведаюць, як патрэбны механізаваныя адзінкі зараз у гаспадарках. Каб паставіць іх "на ногі", яны не лічацца з уласным часам. Асноўны акцэнт робяць на якасць рамонту, таму нараканняў з боку земляробаў не бывае. А калі часам і здараюцца паломкі, то рамонтнікі выязджаюць на месца і аператыўна ўхіляюць няспраўнасць, каб тэхніка не прастойвала.

Зараз тут даводзяць да ладу корманарыхтоўчыя комплексы з калгасаў імя Кірава, "ІІІ з'езд Саветаў", "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага, з калгаса "Беларусь". І страху б ніякага не было, калі б у поўным аб'ёме былі запасныя часткі, камплектуючыя вузлы і агрэгаты, якіх зараз з-за дарагавізны не дакупіцца.

Галоўная праблема для прадпрыемства — узаемаразлікі з гаспадаркамі за аказаныя паслугі. Як правіла, сельгаспрадпрыемствы разлічваюцца не грашамі, а збожжам, іншай прадукцыяй. Пакуль жа ў іх засекі пустыя, таму няма і паступлення сродкаў. Але ААТ "Кіраўскае райаграпрамтэхзабеспячэнне" кожны месяц у справаздачнасці паказвае зроблены аб'ём работ і сумы, на якія яны выкананы. Значыць, патрэбна плаціць падаткі. Да таго ж, неабходна выдаваць людзям зарплату, разлічвацца за электраэнергію, з пастаўшчыкамі — за запчасткі і іншае.

— Мы разумеем фінансавыя цяжкасці хлебаробаў, таму не лічымся ні з затратамі, ні з уласным часам, — зазначыў пры размове галоўны інжынер прадпрыемства В.П.Ставер. — У нашым калектыве 169 чалавек. Усе вопытныя, здольныя вырашыць многія задачы. Дзякуючы намаганням рамонтнікаў, аднаўляюцца даўно адпрацаваўшыя свой тэрмін уборачныя машыны.

Пасля завяршэння леташняга жніва тут патрэбна было паставіць на лінейку гатоўнасці 43 камбайны, з іх 28 "Донаў". Улічваючы недахоп запчастак, адрамантаваны толькі 20 (16 "Донаў"). Калі будуць сродкі, то ў першую чаргу будуць рамантавацца менавіта "Доны".

Своечасова паставілі свае камбайны ў рамонт калгасы "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага, імя Дзяржынскага, імя Свярдлова, "Камуніст", саўгас імя Кірава: яшчэ ў лістападзе-снежні. Тады рамонт каштаваў намнога танней: ад 1 да 1,5 мільёна рублёў, зараз жа — да 3. (Для параўнання: такі ж рамонт "Строммашына" ажыццяўляла ў той час за 3-5 мільёнаў рублёў).

Складанае становішча з давядзеннем да ладу камбайнаў, якія паставілі калгасы "Радзіма" і "Беларусь": па 3 адзінкі з кожнай гаспадаркі. І да іх рамонту яшчэ не прыступалі наогул. Прычына ўсё тая ж — адсутнасць сродкаў на набыццё запчастак.

Прадпрыемства на сённяшні дзень, як гаворыцца, не ў шаўках, але і не ў даўгах. Своечасова тут выдаецца заработная плата, якая за май у сярэднім склала 39760 рублёў. Райаграпрамтэхзабеспячэнне ўзяло на сябе абавязацельства па апрацоўцы зямельных надзелаў працуючых. Сёлета, напрыклад, увялі ў агульны севазварот 32 гектары, набылі насенне збожжавых і засеялі усю плошчу. Жадаючым пасадзілі яшчэ і бульбу. Разлікі за паслугі будуць весціся восенню. Як заўважыў В.П.Ставер, кошт іх будзе невялікім. Выконваюцца і іншыя пункты калектыўнага дагавора сацыяльнага накірунку. Таму і даражыць кожны сваім рабочым месцам, з адказнасцю ставіцца да выканання даведзеных заданняў. Тут не назіраецца цякучасці кадраў, усе маюць працяглы стаж работы. Як кажуць, ад дабра дабра не шукаюць.

**Таццяна БАРАДЗІНА.**

